# БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКААПСАЮЗУ

16 сакавіка 1932 г.
№ 4
Выходзіць 2 разы ў дэкаду

Рэдакцыя і ка...
Менск, Савецка...
Тэл. 6—50...

Умовы падп...
На год—12 ру...
На 6 м.— 6 ру...




## Спажыўкаапэрацыя БССР—да веснавой сяўбы

Зацьверджан прэзыды...
Белкаапсаюзу 22/II-3...

### Зводны пляян

**Па надрыхтоўцы і правядзеньні вясеньняй пасеўкампаніі па лініі спажывецкай каапэрацыі ў ...**

Выходзячы з пастановы прэзыдыуму БКС ад 13/I правесьці наступныя практычныя мерапрыемствы.

#### I. Арганізацыйна-масавая праца.

1. З намечаных па пляну да арганізацыі ў працягу 1932 г. 820 гандлёвых пунктаў, арганізаваць і адчыніць у працягу 1-га кварталу 417 гандлёвых пунктаў. Гэта мерапрыемства ажыцьцявіць шляхам арганізацыі гандлёвых пунктаў у калгасах і саўгасах, арганізацыі развознага гандлю і палявых ларкоў ў час палявых работ.

2. У працягу першага кварталу ажыцьцявіць дырэктыву прэзыдыуму БКС аб арганізацыі культчайных пры сельпо з такім разьлікам, каб у гэтым пэрыядзе арганізаваць ня менш 400 культчайных і работу паставіць такім чынам, каб арганізаваць нармальнае і бесьперабойнае абслугоўваньне ў час палявых работ.

3. Прыстасаваць гадзіны гандлю крам і культчайных да фактычных патрэб калгасьнікаў і рабочых саўгасаў, з такім разьлікам, каб забясьпечыць абслугоўваньне рабочых калгасаў і саўгасаў у час выхаду на работу і прыходу з работы і забясьпечыць абслугоўваньне ў час работы развозным гандлем і палявымі ларкамі.

4. Па ўсіх сельпо і РСС скласьці спэцыяльныя пляны ўдзелу ў пасеўнай кампаніі і арганізаваць спэцыяльныя нарады старшынь сельпо па разгляду плянаў. Адначасова РСС арганізаваць пастаноўку дакладаў сельпо на паседжаньнях аб ходзе выкананьня плянаў.

5. Арганізаваць пры ўсіх буйных сельпо насьценгазэты, дзе асьвятляць пастаноўку кааппрацы, ход выкананьня пляну сельпо па ўдзелу ў пасеўнай кампаніі і ў праводзімым конкурсу на лепшую работу па арггаспадарчым умацаваньні калгасаў.

6. У пэрыядзе правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі органаў кааптрамадзкасьці (каапбюро і крамкамісіі) на ўсіх хсодах рабочых саўгасаў, калгасьнікаў, прадпрыемстваў і вучастковых сходах пайшчыкаў—ставіць пытаньне аб задачах пасеўнай кампаніі і аб намечаных мерапрыемствах па сельпо па ўдзелу ў правядзеньні гэтай кампаніі (люты, сакавік).

7. Па ўсіх РСС у сакавіку месяцу правесьці канфэрэнцыю работнікаў прылаўка разам з прадстаўнікамі ініцыятыўных груп садзейнічаньня калектывізацыі, каапбюро, брыгад „дапамогі і ... ролю" і рэўкамісіі аб задачах і мерапрые... па правядзеньні пасеўнай кампаніі.

8. У гэтым пэрыядзе пры дапамозе органаў масавага кантролю—дабіцца поўнага ачышчэньня апарату сельпо ад растратчыкаў і клясава-чужых элемэнтаў. Праінструктаваць брыгад „дапамогі і кантроля", каб апошнімі быў арганізаваны стражайшы кантроль за тым, каб тавары, выдучаныя для пасеўнай кампаніі, былі-бы пушчаны па іх простаму назначэньню.

9. Усім РСС арганізаваць ўнутрырайённыя конкурсы на лепшае сельпо па ўдзелу ў пасеўнай кампаніі і на лепшага каапактывіста па дапамозе і кантролю за выкананьнем намечаных мерапрыемстваў.

10. Па ўсіх РСС пры кожным сельпо арганізаваць спэцыяльныя часовыя брыгады па кантролю за выкананьнем намечаных мерапрыемстваў у галіне абслугоўваньня ў час пасеўнай кампаніі.

11. Арганізаваць збор попелу і прыцягнуць школьнікаў і піянэраў да збора попелу.

12. У цэнтры ўвагі, як адну з баявых задач паставіць задачу поўнага выкананьня плянаў загатоўкі насеньня ва ўстаноўленыя тэрміны. Прыцягнуць каапбюро, брыгады „дапамогі і кантролю" і ініцыятыўныя групы садзейнічаньня калектывізацыі ў практычнай працы па выкананьні плянаў загатоўкі насеньня.

13. У сакавіку месяцы склікаць нараду ўпаўнаважных РСС па пасеўнай кампаніі.

14. На працягу сакавіка месяцу заслухаць на прэзыдыуме БКС даклады 8 РСС і 5 сельпо аб праробленай рабоце па правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі.

15. Адказнасьць за выкананьне ўскл...

**Г. Гінзбург.**

#### II. Кнігараспаўсюджаньне.

1. Распаўсюдзіць літаратуру да вясе... пасеўкампаніі у суме 370.000 руб. Рэалізаваць радыёлітэратуру да пасеўнай кампаніі на 20...

2. У час пасеўнай кампаніі для распаўсюджваньня кніг арганізаваць ня менш ...000 кні...

3. Ажывіць работу кнігарань і кніжных ... Правесьці конкурс на лепшую работу ... сюджваньні літаратуры да пасеўнай кампаніі.

арганізаваць снабжэньне канцпрыладамі і ...яламі для афармленьня насьценгазэт у кал..., саўгасах і буйных сельпо.

Адказнасьць за выкананьне ўскласьці на тав. **Любіча.**

### III. У галіне снабжэньня.

#### Па прадаб'яднаньні

1. На час вясеньняй пасеўнай кампаніі ўстанавіць дадатковы водпуск прадуктаў: для грамадзкага харчаваньня—мукі пшанічнай 16,5 тон саўгасам і 15 тон калгасам.

Даручыць т. **Альпяровічу** вышукаць для гэтай мэты фонды тавараў. Вылучыць для пасеўнай кампаніі 300 тон кандытэрскіх вырабаў, расьліннага масла 10 тон.

Стварыць рэзэрв для дадатковага забесьпячэньня рабочых саўгасаў і калгасьнікаў на час вясеньняй пасеўнай кампаніі ў 350 скрынак махоркі, разьмеркаваўшы гэты фонд па адпаведных раёнах, а таксама вылучыць частку лёгкага тытуну.

Адказнасьць за выкананьне ўскладаецца на тав. **Альпяровіча.**

#### Па прамтаварным аб'яднаньні.

2. Вылучыць для прэміраваньня лепшых ударнікаў саўгасаў і калгасаў і арганізацыі палепшанага і першачарговага абслугоўваньня рабочых саўгасаў і калгасьнікаў: гатовага адзеньня на суму 150.000 і халатаў на 60.000 руб.

Адказным па прамтаварным аб'яднаньні т. **Фальковіч.**

#### Па гаспадарчым аб'яднаньні.

3. З агульнага пляну снабжэньня каламазі ў 2500 тон забясьпечыць у першую чаргу патрэбнасьць вясеньняй пасеўнай кампаніі, прапанаваўшы райспажыўсаюзам зараз-жа выбраць каламазь згодна вызначанага пляну, наладзіўшы сваечасовую справаздачнасьць па паступленьні каламазі.

Вызначаную колькасьць нафтапрадуктаў: газы 11.000 тон сваечасова завезьці ў адпаведныя раёны, устанавіўшы адпаведную справаздачнасьць аб паступленьні колькасьці нафтапрадуктаў. Эмаліраваную і ацынкованую пасуду перадаць Белкаапхарчу для арганізацыі харчаваньня ў час вясеньняй пасеўнай кампаніі.

Выдзяліць для пасеўнай кампаніі 8625 віл і 6650 рыдлёвак.

Адказным па гаспадарчым аб'яднаньні тав. **Андросенка.**

#### Па мэблевым аб'яднаньні.

Вылучыць для пасеўнай кампаніі: калёс 2000 станаў на 80.000 руб, вяроўкі 40 тон на 54.000 руб., лыжак 500.000 шт. на 50.000 руб., кошыкаў бульб. 4.000 на 6.000 руб., абадоў 1.000 скат. на 10.000 руб., Разам на 200.000. Адказны—тав. Ізраэліт.

4. Па Аб'яднаньні дзіцячага забесьпячэньня вылучыць для пасеўкампаніі 700 камплектаў дзіцячай бялізны на суму прыблізна 20.000 р.

5. Памянёным аб'яднаньням устанавіць адпаведную справаздачнасьць ад раёнаў і сачыць за сваечасовым выкананьнем заданьняў.

Кожнага 3,13 і 23 чысла ў месяц—Сэктару снабжэньня склікаць нарады адказных працаўнікоў аб'яднаньняў і заслухоўваць інфармацыі аб ходзе выкананьня мерапрыемстваў па абслугоўваньні вясеньняй пасеўнай кампаніі па лініі снабжэньня.

6. Усім РСС з атрыманых агульных фондаў і па-заплянавых закупак вылучыць спэцыяльныя прамтаварныя фонды для палепшанага снабжэньня рабочых саўгасаў і калгасьнікаў і прэміяваньня лепшых ударнікаў.

Па кожным РСС такія фонды стварыць у суме ня менш 5.000 руб.

### IV. У галіне хлебапячэньня.

Хлебавыпякаючым арганізацыям прыступіць да больш узмоцненай выпечкі хлеба ў час веснавай сяўбы з тым, каб гэты хлеб абмяніць на муку па ільготных умовах, гэта знач. аддаваць увесь натуральны прыпёк, а за пераапрацоўку мукі атрымаць грошы за кожную тону мукі па сабекошту.

2. Выдзяліць ад кожнай хлебавыпякаючай адзінкі ад 2-х да 4-х лепшых пекароў у якасьці брыгадзіраў па інструктажу хлебапячэньня. Брыгадзіры накіроўваюцца на раён для арганізацыі інструктажу хлебапячэньня. Лепшыя калектывы і і брыгадзіры павінны быць прэміяваны.

3. Кожная хлебавыпякаючая арганізацыя, як-та: раённыя і гарадзкія хлебазаводы, павінны паведаміць Белпрамхлеб, што імі зроблена і якая канкрэтная праца імі праведзена ў гэтай галіне не пазьней 1|III-32 г.

### V. У галіне грамадзкага харчаваньня.

1. На працягу дэкады заключыць дагавары з Калгасцэнтрам і саўгаснымі гаспадарчымі аб'яднаньнямі аб абавязках як з боку Б.К.С., Саўгассэкцыі, так і Калгасцэнтру і саўгасарганізацый у справе арганізацыі пасеўнай кампаніі (інвэнтар, абсталяваньне сталовак, падрыхтоўка кадраў і г. д).

2. Падрыхтаваць да 15.IV для патрэб пасеўнай кампаніі 94 кухараў.

3. Арганізаваць на час палявых работ палявыя ачагі, кухні-развозкі, развозку харчаў у тэрмасах для абслугоўваньня рабочых саўгасаў і калгасьнікаў і абавязаць ўсе РСС ў дэкадны тэрмін прапрацаваць канкрэтныя пляны і ўзгодніць іх з мясцовымі калгаснымі і саўгаснымі арганізацыямі. Адказнасьць ускладаецца на тав. **Асьніна.**

# Аб становішчы самазагатовак па каапэрацыйн. сыстэме

## Пастанова Прэзыдыуму Белкаапсаюзу

1. Канстатаваць, што ў галіне разгортваньня па-за плянавых закупак і самазагатовак маецца некаторы зрух, асабліва па шэрагу ЗРК і раздробных аб'яднаньнях БКС. Па 30 проц. сеці ўдзельная вага па-за плянавых закупак у IV квартале выражаецца ў наступных разьмерах: а) З.Р.К.—54 проц. б) Ц.Р.К.—35,1 проц.; в) раздробныя аб'яднаньні БКС—59 проц. і г) Райсаюзы 15,7 проц. Па ўсіх зьвеньнях ў сярэднім—37,1 проц., а па асобных ЗРК разьмер па-за плянавых закупак і самазагатовак складае да 70 проц. (ЗРК „Палесдрук"—70 проц. ЗРК „Пралетары" 68 проц., ЗРК швэйнікаў Віцебск—70 проц. Па менскім ЦРК—43,7 проц., па раздробным аб'яднаньні гатовай вопраткі 69,2 проц.

2. Праяўленьнем ініцыятывы ў галіне разгортваньня па-за плянавых закупак і самазагатовак дасягнута некаторае паляпшэньпе снабжэньня рабочых асобных прадпрыемстваў. Па ЗРК абутнікаў (Менск) з рэсурсаў самазагатовак выдана дадаткова за сьнежань м-ц рабочым сала па 500 гр., сыру галяндзкага па 400 гр., куры і яйкі. Па ЗРК друкарні імя Сталіна выдана дадаткова па 400 гр. масла сьлівачнага, 200 гр. сыру галяндзкага, 400 гр. сала. Па ЗРК „Бальшавік" выдана дадаткова ў IV квартале на 26 руб. на кожнага рабочага харчовых прадуктаў. Па ЗРК „Пралетары" (Гомель) па-заплянавыя закупкі гатовага адзеньня правышаюць суму плянавага завозу на 300 проц. Па ЗРК „Палесдрук" па-за плянавыя закупкі абутку правышаюць суму плянавага завозу на 600 проц.

3. Некаторыя вынікі дасягнуты па разгортваньні па-заплянавых закупак непасрэдна магазынамі, дзякуючы пераводу іх на самастойныя балянсы. Па магазыне менскага ЦРК № 17 па-за плянавыя закупкі праведзеныя непасрэдна магазынам—складаюць 40 проц.

4. Побач з гэтым, Прэзыдыум канстатуе наяўнасьць шэрагу буйнейшых недахопаў і скажэньняў ў галіне выкананьня дырэктыў па разгортваньні па-заплянавых закупак і самазагатовак каапарганізацыямі, якія ў асноўным выражаюцца ў наступным:

I. Недапушчальна слабае разгортваньне работы па арганізацыі самазагатовак белсельгаспрадуктаў. Удзельная вага сельгаспрадуктаў ў суме па-за плянавых закупак нязначная. Па менскім ЦРК удзельная вага сельгаспрадуктаў складае 2,2 проц., гародніны і садавіны 15 проц. Па ЗРК швэйнікаў Віцебск удзельная вага сельгаспрадуктаў складае 5 проц. гародніны і садавіны 21 проц. Па ЗРК панчошнай фабрыцы ўдзельная вага сельгаспрадауктаў, гародніны і садавіны складае ўсяго 4 проц., па ЗРК „Палесдрук" 3 проц., ЗРК Крупскай (Менск)—1,5 проц.

II. Адсутнічаньне якой-небудзь плянавасьці ў справе разгортваньня па-заплянавых закупак і самазагатовак і дапушчэньне празмерна высокіх выдаткаў. Па ЗРК панчошнай фабрыцы—выдаткі да сумы загатовак сельгаспрадуктаў складаюць 80 проц. На асобных загатоўчых пунктах ЗРК „Кастрычнік" выдаткі ў шмат раз правышаюць суму загатовак (загатоўлена курэй 9 р. 84 к., выдаткавана 784 р. і г. д.).

III. Наяўнасьць ажыятажу і канкурэнцыі ў справе арганізацыі самазагатовак сельгаспрадуктаў (правышэньне норм прэміяваньня і арганізацыя тавараабмену (Магілеўскі ЦРК ў Чавускім раёне, Бабруйскі ЦРК ў Парыцкім раёне). Спуск тавараў на загатоўкі ў сяло па гарадзкіх цэнах, адсутнічаньне дапоўненасьці паміж райспажсаюзамі і загатоўчым пунктамі і спуск тавараў на загатоўкі з фондаў, вызначаных для снабжэньня рабочых,

IV. Пакупка і продаж тавараў ад раздробных магазынаў па раздробных цэнах. У суме па-за плянавых закупак па сельпо, каля 70—80 проц. займаюць закупкі ад раздробных магазынаў ЗРК, ЦРК, аб'яднаньня БКС і ЗРК (Жлобінскі райспажсаюз, Рагачоўскі, Прапойскі, Быхаўскі). Наяўнасьць выпадкаў злоўжываньня—асабліва па вясковай сыстэме (Быхаўскі, Ельскі і інш. раёны).

V. Слабае разгортваньне работы па па-запля навых закупках па вясковай сыстэме, дзе ўдзель ная вага апошніх складае 15, 7 проц. Пры гэтым у асобных РСС па-заплянавыя закупкі адыгрываюць зусім нязначную ролю (Прапойск, Быхаў і г. д.), што сьведчыць аб тым, што работа вясковай спажыўсыстэмы яшчэ ня поўнасьцю перабудавана ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі і ўраду аб разгортваньні савецкага гандлю.

VI. Адсутнасьць вучоту па-заплянавых закупак у самазагатоўках і кантролю за іх правядзеньнем, з якой прычыны ствараецца цяжкасьць ў ажыцьцяўленьні штодзённага апэрацыйнагокіраўніцтва.

VII. Арганізацыя закупак па-за плянавым парадкам такіх тавараў, якія маюцца ў дастатковай колькасьці на базах каапарганізацыі. Арганізацыя закупак, ня ўлічваючы попыту насельніцтва і ходкасьці гэтых тавараў. Дача і прыём прымусовага асартымэнту (Прапойскі РСС пры закупцы на 1000 руб. гатовага адзеньня ў магазыне Гом. Вод. ТСТ атрымаў на 4000 руб. летніх шапак).

Выходзячы з усяго вышэйпаказанага, прэзыдыум БКС пастанаўляе:

1. Прапанаваць усім ЦРК, ЗРК, райсаюзам аб'яднаньням Белкаапсаюзу карэнным чынам вытруціць з практыкі работы па самазагатоўках і закупках вышэйпаказаныя недахопы, скажэньні, мабілізуючы свой апарат і пралетарскую грамадзкасьць на выяўленьне фактаў скажэньня і на рашучае іх зьнішчэньне

2. Абавязаць усе каапарганізацыі безадкладна дабіцца рашучага пералому ў пастаноўцы і разгортваньні работы па самазагатоўках і закупках. Паставіць у цэнтры ўвагі разгортваньне самазагатовак с/гас. прадуктаў, дабіваючыся канкрэтных вынікаў ад самазагатовак ў справе палепшаньня рабочага снабжэньня.

3. Сэктару снабжэньня пры дачы заданьняў па таваразвароту і па-заплянавых закупках асобна паказаць заданьне па загатоўках с/гас. прадуктаў і прамтавараў і весьці ў такім выглядзе вучот выкананьня заданьня па-заплянавых закупках і самазагатоўках. Сэктару снабжэньня сумесна з сэктарам вучоту і справаздачнасьці—у дэкадны

тэрмін удасканаліць формы вучоту па-за плянавых апэрацый па сыстэме і БКС.

Для забесьпячэньня штодзённага апэрацыйнага кіраўніцтва справай самазагатовак арганізаваць у сэктары снабжэньня спэцгрупу па самазагатоўках. Даручыць тав. Шэйніну праверыць на справе як ажыцьцяўляецца прымацаваньне да асобных раёнаў і праверыць у 1-2 раёнах, як ЗРК на справе займаюцца самазагатоўкамі.

4. Усім ЗРК, ЗВК і ЦРК распрацаваць шэраг канкрэтных мерапрыемстваў пад такім пунктам погляду, каб у корані зьнішчыць моманты празмерных і недапушчальных выдаткаў па самазагатоўках. Даручыць аргінструктарскаму сэктару сумесна з Белплодагароднінай і Белкаапмалако і бюро цэн, у дэкадны тэрмін распрацаваць парадак арганізацыі і аплаты работнікаў загатоўчых пунктаў ЗРК, ЗВК, ЦРК і нормы выдаткаў па пунктах.

5. Катэгарычным чынам, пад асабістую адказнасьць старшынь ЗРК, ЗВК і ЦРК, забараніць спуск тавараў для прэміяваньня продажу сельгаспрадуктаў з фондаў, вызначаных для рабочага снабжэньня. Для гэтай мэты павінны быць скарыстаны тавары з па-заплянавых закупак і з фондаў, якія вылучаюцца для арганізацыі самазагатовак.

6. Яшчэ раз у катэгарычнай форме забараніць раздробным магазынам праводзіць аптовы продаж. У выпадку неабходнасьці такі продаж у кожным асобным выпадку праводзіць праз праўленьне. Прапанаваць РСС даць дырэктыву сельпо безадкладна спыніць пакупкі тавараў у раздробных магазынах па раздробных цэнах.

7. Прапанаваць РСС даць дырэктыву сельпо і арганізаваць сталы кантроль за тым, каб тавары, якія маюцца ў дастатковай меры на базах РСС, не закупаліся па-заплянава. Асартымэнт па-заплянавых закупак павінен быць так пабудаван, каб ён поўнасьцю адпавядаў попыту насельніцтва і фактычным патрэбам.

8. Прапанаваць РСС арганізаваць рашучую барацьбу з момантамі злоўжываньняў у галіне разгортваньня па-за плянавых закупак.

9. Прапанаваць усім РСС устанавіць такі парадак, каб усялякія паездкі старшынь сельпо за пакупкай тавараў у іншыя гарады ўзгадняліся абавязкова з РСС, а па ЦРК, ЗРК, ЗВК толькі па згодзе старшынь праўленьня.

# Шэсьць ўмоў т. Сталіна—у практычную работу спажкаапэрацыі

Пастанова прэзыдыуму Белкаапсаюзу аб выніках праверкі выкананьня 6-ці ўмоў тав. Сталіна па ЗРК: „Камінтэрн", „Праца", „Вэзуві", „Пралетары", „Палесдрук", Шклобуд—Гомель, „Кастрычнік" ЗРК шоўкавай фабрыкі, Магілеўскім ЦРК, Шклоўскім Гарпо.

1. Праведзеная рэарганізацыя сыстэмы, у адпаведнасьці з майскай адозвай ЦК, СНК і Цэнтрасаюзу і Кастрычніцкага пленуму ЦК УсеКП(б) і Бюро ЦК КП(б)Б—зьявілася адным з магутных фактараў у справе разгортваньня савецкага гандлю і палепшаньня снабжэньня рабочых.

Асаблівую ролю ў справе палепшаньня рабочага снабжэньня адыгрываюць ЗРК, якія ў значнай частцы, дзякуючы некатарому пераламленьню ў сваёй рабоце 6-ці ўмоў тав. Сталіна, праяўленьню мясцовай ініцыятывы—дасягнулі некаторых становчых вынікаў у галіне палепшаньня рабочага снабжэньня і разгортваньня савецкага гандлю.

Па ЗРК „Палесдрук" плян таваразвароту за 4-ты квартал выканан у разьмеры 109 проц. Прычым значную ролю адыгрываюць па-заплянавыя закупкі, удзельная вага якіх дасягая каля 70 проц. Пры плянавым атрыманьні абутку на 2.300 руб. ЗРК „Палесдрук" па-за плянава закупіў абутку на 12.800 руб. Па ЗРК „Пралетары" (Гомель) плян таваразвароту на 4-ты квартал выканан у разьмеры 130 проц. і ўдзелная вага па-за плянавых закупках дасягае 68 проц. Па гэтаму-ж ЗРК гатовай вопраткі ў плянавым парадку атрымана на 19.000 р. закуплена ў па-за плянавым парадку на 62.000 р. Садавіны ў плянавым парадку паступіла на 12.500 р. загатоўлена па-за плянавым парадкм на 60.900 р. Таксама значна разгорнуты па-за плянавыя закупкі па ЗРК „Везуві", „Камінтэрн", „Спартак" і г. д.

Некаторыя станоўчыя вынікі дасягнуты ў працы асобных ЗРК ў галіне сапраўднага павароту тварам да вытворчасьці і ўвязка іх работы з выкананьнем вытворчых плянаў і праграм. Акрамя плянавага снабжэньня, значная частка тавару па-за плянавых апэрацый накіроўваецца для павышанага і палепшанага снабжэньня ўдарнікаў. Па ЗРК „Везуві", для ўдарнікаў сыстэматычна выдзяляецца 30 проц. усіх дэфіцытных прамтавараў. Па ЗРК „Палесдрук" прыступлена да выдачы па другой пары абутку ўдарнікам. Па ЗРК шоўкавай фабрыкі для ўдарнікаў быў выдзелен таварны фонд у суме 311.000 руб.

Таксама маецца некаторы зрух у галіне арганізацыі пастаноўкі работы магзына, перавод на гаспадарчы разрахунак і зьдзельную аплату працы. Па ЗРК шоўкавай фабрыкі ўсе крамы пераведзены на гандльфінпляны. Увесь апарат крам пераведзен на індывідуальную зьдзельшчыну, дзякуючы чаму павялічылася нагрузка на аднаго прадаўца з 7.000 руб. да 11.000 руб.—па прамтаварным аддзяленьні.

2. Побач з гэтым прызыдыум канстантуе наяўнасьць раду буйных недахопаў у працы, якія сьведчаць аб тым, што ня ўсімі каапарганізацыямі дастаткова асьвядомлена выключнае значэньне правядзеньня ў жыцьцё 6-ці ўмоў тав. Сталіна і дырэктыў партыі аб разгортаваньні савецкага гандлю, а менавіта:

1) Зусім не дастатковы тэмпы перабудовы работ магазынаў. У шэрагу абсьледаваных ЗРК—у магазынах адсутнічаюць гандльфінпляны і ня поўнасьцю праведзена здзельная аплата працы (ЗРК „Камінтэрн", „Везуві"). Па ЗРК „Праца" да правядзеньня зьдзельнай аплаты працы нават і ня прыступлена.

Палажэньне аб правох загадчыкаў магазынаў ня ўведзена. Загадчыкі яшчэ не зьяўляюцца гаспадарамі магазынаў. Па ўсіх абсьледаваных магазынах загадчыкі не праводзяць па-за плянавых закупак і г. д. Работа па рацыяналізацыі тэхнікі гандлю і барацьба з чаргамі не пастаўлены ў цэнтр увагі. У асобных ЗРК („Пралетары"), нават і фасоўка тавараў сыстэматычна не праводзіцца. Санітарнае становішча і ўнутранае абсталяваньне магазынаў нездавальняючае.

2) Работа па снабжэньні яшчэ ня поўнасьцю увязана з выкананьнем прамфінпляну па асобнымі цэхамі і групамі рабочых. У значнай частцы магазынаў таксама адсутнічаюць куткі ўдарнікаў („Палесдрук", „Пралетары", „Везуві". „Камінтэрн" і г. д.).

3) Пры значным разгортваньні па-за плянавых закупак і загатовак—зусім нязначна ўдзельная вага ў іх прадуктаў харчаваньня. Па ЗРК „Везуві" ўдзельная вага загатоўленых сельгаспрадуктаў у агульнай суме па-за плянавых загатовак і закупак складае 8 проц. Па ЗРК „Палесдрук"—4 проц.

Маецца рад скажэньняў дырэктыў партыі і Прызыдыуму БКС у галіне разгортаваньня савецкага гандлю арганізацыя гандлю для гандлю (Шклоўскае Гарпо, ЗРК „Пралетары"), тавараабменныя апэрацыі (ЗРК „Везуві" і „Праца"). Па ЗРК „Везуві" праводзіліся тавараабменныя апэрацыі на прамтавары і на такія прадметы, як цьвікі. Тое самае і па ЗРК „Праца".

Па ЗРК „Палесдрук"—прадавалася прадукцыя „Палесдруку" оптам раздробным арганізацыям, а таксама і ў розніцу—па падвышаным цэнам. (сшыткі).

Асабліва агідныя факты маюцца па Шклоўскім Гарпо, якое купляла паперу на фабрыцы і атрыманае перапрадавала оптам розным арганізацыям.

Таксама маецца наяўнасьць недапушчальных фактаў—вялікіх выдаткаў па самастойных закупках і загатоўках. Па ЗРК „Кастрычнік" сярэдні процант выдаткаў па ўнеплянавых апэрацыях складае 27,5 проц. Прычым маюцца выпадкі, калі выдаткі значна перавышаюць суму закупак, напрыклад: у адным выпадку загатоўлена сельгаспрадукцыі на 178 руб. выдаткавана 498 руб. У другім выпадку загатоўлена кур на 9 р. 89 к. выдаткавана на 854 руб.

4) Слабая барацьба вядзецца за скарачэньне выдаткаў і ўзмацненьне фінансавай гаспадаркі. У той час, калі па ўсіх абсьледаваных ЗРК выдаткі да звароту тавараў складаюць ад 6 проц. (Шклобуд) да 8,26 проц. (Спартак), у ЗРК „Праца" выдаткі па звароту тавараў складаюць 12 проц. У ЗРК „Пралетары" выдаткована за 4 м-цы на адны камандыровачныя—5.000 руб. Дзякуючы гэтаму ў гэтым ЗРК адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі ў кастрычніку м-цы павялічыліся на 36 проц. у абсалютных сумах, у ЗРК „Спартак" фактычныя выдаткі павялічаны на 17 проц. супроць вызначаных па каштарысу.

5) Наяўнасьць момантаў скажэньня савецкай палітыкі цэн. Малако ў Магілеўскім ЦРК прадаецца па 24 кап. літр (цана Наркамгандлю), ЗРК шоўкавай ф-кі прадае па 31 кап. ЗРК „Праца" на высечку і скуры, якія атрымліваюцца з ф-кі, робяць накладаньне 100—150 проц., у выніку чаго сярэдні разьмер накладаньня складае 17,7 проц.

6) Нездавальняючыя вынікі маюцца ў галіне арганізацыі барацьбы за якасьць прадукцыі. Гэтае **важнейшае пытаньне не пастаўлена ў цэнтры увагі.**

3. Вышэйпаказаныя буйнейшыя недахопы ў значнай сваёй частцы тлумачацца слабым разгортваньнем масавай работы і слабым ўдзелам у практычнай рабоце рабочых і завадзкіх арганізацый. Масавы рабочы кантроль яшчэ не разгорнут у дастатковай ступені. Шэсьць умоў тав. Сталіна не даведзены да кожнага работніка прылаўка і ў частцы каапарганізацый—нават не распрацованы. Не арганізаван кантроль за іх выкананьнем (ЗРК „Пралетары", „Палесдрук", „Камінтэрн", „Спартак", Шклоўскае Гарпо, Шклоўскі Райсаюз).

Улічваючы, што ажыцьцяўленьне 6-ці ўмоў тав. Сталіна ў рабоце ўсіх зьвеньняў сыстэмы зьяўляецца асноўнай прадпасылкай для ліквідацыі ўраўнілаўкі ў таварным снабжэньні, абязьлічкі ў працы, правядзеньні пераважнага і першачарговага снабжэньня важнейшых галін сацбудаўніцтва і шырокага разгортваньня савецкага гандлю, Прэзыдыум БКС пастанаўляе:

1) Абавязаць як праўленьні вышэйпаказаных арганізацый, гэтак і ўсіх каапарганізацый, пад адказнасьць старшынь—на падставе матар'ялаў абсьледаваньня і гэтага рашэньня Прэзыдыуму неадкладна намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па зьнішчэньні выяўленых недахопаў і поўным ажыцьцяўленьні ў рабоце 6-ці ўмоў тав. Сталіна.

Поўнасьцю дабіцца карэннага паляпшэньня работы магазынаў. Перавесьці ўсе магазыны на гаспадарчы разьлік з самастойнымі гандальфінплянамі. Буйных магазынаў прадуктовых са зваротам у 60.000 руб. у месяц, прамтаварных са зваротам 100.000 руб. у месяц—перавесьці на самастойныя балянсы. Безадкладна давесьці палажэньне аб загадчыках магазынамі да кожнага магазына і работніка прылаўка і поўнасьцю правесьці яго ў жыцьцё.

2) З мэтай зьнішчэньня выпадкаў несваечасовага давядзеньня гандальфінпляну да магазынаў і работнікаў прылаўка, абавязаць Праўленьні ЗРК, ЦРК ускласьці персанальную адказнасьць на аднаго з адказных работнікаў апарату за своечасовасьць правядзеньня кантрольных лічбаў і гандальфінплянаў да асобных магазынаў. Прычым гандальфінпляны павінны быць даведзены да магазынаў і асобных работнікаў прылаўка не пазьней як за 15 дзён да пачатку кварталу.

Арганізаваць распрацоўку гандальфінплянаў на шырокіх нарадах работнікаў прылаўка, сумесна з органамі каапграмадзкасьці. Арганізаваць вучот і кантроль за выкананьне колькасных і якасных аказчыкаў гандальфінпляну.

3) У дэкадны тэрмін выканаць дырэктыву Прэзыдыуму БКС аб пераводзе работнікаў крам на індывідуальную аплату працы, паставіўшы зарплату работнікаў крам выключна ў залежнасьці ад выкананьня колькасных і якасных паказчыкаў гандальфінплянаў. Даручыць аргаінструктарскаму сэктару ўдасканаліць пытаньне аб парадку аплаты працы работнікаў прылаўка ў выпадках невыкананьня колькасных і якасных паказчыкаў гандальфінплянаў.

4) Абавязкова штомесячна заслухоўваць даклады асобных загадчыкаў магазынаў аб выніках выкананьня колькасных і якасных паказчыкаў гандальфінплянаў і садаклады галоўбухаў аб агульным выкананьні гандальфінплянаў. Пэрыядычна—раз у квартал абавязкова ставіць даклады загадчыкаў магазынаў на сходах, абслугоўваемых пайшчыкаў пад пунктам погляду выкананьня гандальфінпляну за мінулы квартал і ган-

дальфінплян за наступны квартал і становішча работы гэтага магазыну па абслугоўваньні пайнікаў.

5) У цэнтры ўвагі паставіць пытаньне павышанага і першачарговага забесьпячэньня ўдарных цэхаў, агрэгатаў і лепшых ударнікаў, поўнасьцю увязаўшы справу забесьпячэньня з выкананьнем і перавыкананьнем колькасных і якасных паказчыкаў прамфінпляпаў, прадпрыемстваў і асобных цэхаў. Завесьці вучот ударнікаў і вучот выдаваемых ім тавараў. Пры кожным магазыне абавязкова арганізаваць спэцыяльныя куткі ўдарнікаў. Арганізаваць справаздачнасьць ЗРК спэцыяльна аб становішча снабжэньня ўдарнікаў паасобных цэхох прадпрыемстваў.

6. Асаблівую ўвагу ў бліжэйшы час накіраваць на пытаньне пашырэньня гандлёвай сеці—поўнае выкананьне пляна пашырэньня крам, ларкоў і г. д., максымальнае набліжэньне гандлёвай сеці да рабочага спажыўца, адчыненьне ня менш 70 проц. гандлёвай сеці на рабочых акраінах і мабілізаваць шырокую пралетарскую грамадзкасьць шляхам спэцыяльнага абгаварэньня пляну гандлёвай сеці на рабочых сходах—вакола задач поўнага выкананьня пляну пашырэньня гандлёвай сеці.

Абавязаць праўленьні безадкладна прыступіць да выкананьня дырэктыў прэзыдыуму БКС аб правядзеньні рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў у галіне тэхнікі і гандлю. У прыватнасьці на працягу 1-га кварталу дабіцца 100 проц. фасоўкі сыпучых тавараў, 50 проц. папярэдніх адказаў і дастаўкі іх на дом. Патрабаваць ад загадчыкаў магазынаў выкананьня дырэктыў па рацмінімуму. Праўленьне ЗРК „Везуві" зьвярнуць асаблівую ўвагу на прыняцьце рушучых мер да палепшаньня санітарнага становішча магазынаў.

7. З мэтай арганізацыі рашучай барацьбы за якасьць прадукцыі прапанаваць праўленьням кааперацый, згодна зацьверджанага палажэньня, ускласьці персанальную адказнасьць на загадчыкаў магазынаў за прыём недабраякасных прадуктаў і тавараў. Арганізаваць пры кожным магазыне грамадзкія заслоны па недапушчэньні ў продаж недабраякасных прадуктаў і тавараў. Арганізаваць пры больш буйных магазынах вітрыны браку з паказаньнем прадпрыемстваў і цэхаў, выпусьціўшых гэтакую прадукцыю. Сыстэматычна праводзіць галінныя канфэрэнцыі работнікаў прылаўка з рабочымі адпаведных прадпрыемстваў на пытаньні якасьці прадукцыі.

8. Адзначаючы выяўленыя праверкай зусім недапушчальныя факты скажэньняў дырэктыў партыі па разгортваньні савецкага гандлю (ЗРК „Везуві" Палесдрук, „Пралетары", Шклоўскае гарпо), прапанаваць старшыням праўленьняў паказаных арганізацый неадкладна вытруціць з практыкі сваей работы паказаныя моманты: тавараабменныя апэрацыі, аптовыя продажы і пакупкі, продаж тавараў па павышаных цэнах і г. д. Папярэдзіць гэтыя арганізацыі, што за праяўленьне ў іх рабоце ў далейшым якіх-бы там ні было скажэньняў будуць прыняты самыя суровыя меры спагнаньня. Адначасова прыняць да ведама заяву т. Філаметава аб тым што факт тавара-абменных апэрацый па ЗРК „Везуві" меў месца да ліста т. Молатава і што сьледчымі органамі справа спынена. Таксама прыняць да ведама, што склад праўленьня ЗРК „Пралетары" і „Праца" адноўлены. Адначасова яшчэ раз папярэдзіць усю сыстэму, што за малейшае скажэньне дырэктыў партыі ў галіне разгортваньня савецкага гандлю будуць прыняты самыя стражайшыя меры спагнаньня.

9. Абавязаць праўленьні ЗРК у далейшым ў цэнтры ўвагі сваёй работы паставіць пытаньне максымальнага разгортваньня па-заплянавых закупак і загатовак, дабіўшыся больш удзельнай увагі ў агульным пляне самазагатовак і закупак прадуктаў харчаваньня. Павесьці рашучую барацьбу з вялікімі выдаткамі пры правядзеньні па-заплянавых закупак і загатовак і ўстанавіць стражайшую адказнасьць за гэту работу камандыруемых работнікаў. У абавязковым парадку ўстанавіць і наладзіць сыстэматычны вучот правадзімай работы па самазагатоўках і закупках і даваць гэтыя зьвесткі ў БКС ва ўстаноўленыя тэрміны.

10. Арганізаваць рашучую барацьбу за паскарэньне тавараразвароту, скарачэньне таварных астаткаў, з усімі момантамі скрыўленьня дырэктыў партыі і дырэктыў прэзыдыуму БКС у галіне разгортваньня савецкага гандлю.

11. Арганізаваць рашучую барацьбу за стражайшы рэжым эканоміі сродкаў і ўзмацненьне фінансавай гаспадаркі, у прыватнасьці, прапанаваць праўленьню ЗРК „Праца" дабіцца ў першым квартале скарачэньня выдаткаў мінімум на 3 проц. Безадкладна скласьці каштарысы выдаткаў на 32 год у квартальным разрэзе, арганізаваць стражайшы кантроль за іх выкананьне. Дабіцца скарачэньня выдаткаў у 1932 г. на 15 проц. у параўнаньні з 1931 г. Ускласьці персанальную адказнасьць на галоўбухаў за недапушчэньне перавыдаткаў, зацьверджаных па каштарысу сум выдаткаў,

12. Катэгарычным чынам зьнішчыць моманты скажэньняў савецкай палітыкі цэн. Абавязкова і неадкладна вывесіць па ўсіх магазынах прайскуранты і ярлыкі цэн і ў далейшым наладзіць сыстэматычны кантроль за пытаньнем устанаўленьня цэн і становішчам вывешваньня прайскурантаў і ярлыкоў.

13. Адзначаючы, што за апошні час у сувязі з пераходам сталовых ад ЦРК да трэстаў грамадзкага харчаваньня маюцца асобныя выпадкі пагаршэньня работы сталовых, што тлумачыцца тым, што асобныя ЗРК зусім зьнялі з сябе адказнасьць за пастаноўку работы сталовак, лічыць такое становішча зусім недапушчальным і ненармальным. Абавязаць праўленьні ЗРК пад адказнасьць старшынь—ні ў якай ступені не паслабляць свайго нагляду кантролю і дапамогі ў справе пастаноўкі работы сталовых. Адначасова абавязаць БКХ папярэдзіць усе трэсты грамадзкага харчаваньня аб маючыхся выпадках пагаршэньня работы сталовых і абавязаць апошніх забясьпечыць больш канкрэтным кіраўніцтвам, штодзеннай дапамогай і наглядом работы сталовых на прадпрыемствах, на ажыцьцяўленьне пастаноў прэзыдыуму БКС аб паляпшэньні якасьці грамадзкага харчаваньня. БКС арганізаваць неадкладна выбарчыя абсьледваньні становішча работы шэрагу сталовых на прадпрыемствах і становішча кіраўніцтва іх работы трэстаў грамадзкага харчаваньня.

14. Арганізаваць і праводзіць рашучую барацьбу з момантамі расхлябанасьці, абязьлічкі ў працы апарату. Разьмеркаваць функцыі паміж работнікамі устанавіць адказнасьць і кантроль за вы-

кананьні. Устанавіць стражайшую дысцыпліну і арганізаваць канкрэтнае кіраўніцтва работай.

15. Зьвярнуць большую ўвагу на палепшаньне бытавых умоў каапэрацыйных работнікаў. Неадкладна перавесьці, згодна зацьверджанай БКС і Наркамснабам наменклатуры асобных спэцыялістаў у другі сьпіс па забесьпячэньні. Прымацаваць спэцыялістых апаратаў ЗРК і работнікаў прылаўка да сталовых прадпрыемстваў.

Арганізаваць па ўсіх каапарганізацыях тэхнічныя гурткі па дапамозе работнікам па аўладаньні тэхнікай гандлю.

16. Прапанаваць каапарганізацыям распрацаваць гэтую пастанову па прэзыдыуме, на шырокіх сходах работнікаў апарату сумесна з актывам пайнікаў, мабілізуючы шырокія рабочыя масы навакол канкрэтных задач разгортваньня савецкага гандлю і палепшаньня рабочага снабжэньня.

# ІНСТРУКЦЫЯ

## аб працы каапбюро ў саўгасах, машына-трактарных станцыях і калгасах у сыстеме спажывецкай каапэрацыі

### (Працяг—пачатак гл. у № 2-3)

#### Г. У галіне загатовак

1. Аказваюць усямернае садзейнічаньне каапэратыву ў выкананьні плянну загатовак сельгаспадаткаў і ўсіх відаў сыравіны, а таксама плянаў кантрактыцыі і ажыцьцяўляюць кантроль за ходам іх выкананьня.

2. Вядуць агітацыю за кантрактацыю прадукта паляводзтва, агародніцтва, жывёлагадоўлі і інш. відаў, аказваючы дапамогу каапэратыву ў афармленьні кантрактацыйных дагавароў.

3. Арганізуюць удзел пайшчыкаў і актыва ў пашырэньні прадуктовай базы і выкарыстоўваньні мясцовых рэсурсаў, шляхам правядзеньня суботнікаў па разгрузцы гародніны, збору грыбоў, тары, арганізацыі каапэрацыйных агародаў, сьвінарнікаў, трусаводзтва і інш.

4. Садзейнічаюць павялічэньню таварнай масы ў звароце за рахунак дадатковай мабілізацыі прадуктаў, якія загатаўляюцца каапэратывам як у індувідуальным, так і ў абагуленым сэктары звыш плянуемых і рэгулюемых кантыгэнтаў, высьвятляючы запасы таварнай прадукцыі ў насельніцтва.

5. Праводзяць мерапрыемствы па арганізацыі калянтыунай здачы сельгаспрадуктаў і сыравіны (суботнікі, чырвоныя абозы, масавыя ачысткі сялянскіх двароў ад уціля, арганізацыя з жанчын, моладзі і школьнікаў, піянэраў—ударных брыгад па загатоўцы другарадных відаў сыравіны, шырока папулярызуючы гэтыя загатоўкі праз насьценгазэты і раённы друк.

6. Вядуць барацьбу са стратамі, няўменьнем і неправідловым скарыстаньнем сыравіны і з нявытворчым яго спажываньнем ва ўласнай гаспадарцы (псота сыравіны, выкарыстоўваньне воўны, ільну і пянькі на віцьцё вяровак, арканаў, падсьцілкі жывёлы, крыцьцё дахаў, ашпарваньне сьвіней і птушак, драпежніцкае выдаткаваньне сыравіны на саматужны выраб гатовых рэчаў і г. д.).

Каапбюро ажыцьцяўляе сыстэматычны кантроль за своечасовым выкананьнем па пасобных вучастках работы каапбюро пляну работы, заданьняў і пастаноў праўленьня каапэратыву, рашэньні каапбюро, агульных сходаў пайшчыкаў і дэрэктыў мясцовых партыйных, савецкіх і прафэсыянальных арганізацый, а таксама рашэньняў вышэй стаячых органаў спажывецкіх каапэрацыі.

Аб усіх выяўленых недахопах у рабоце на асобных яе вучастках, каапэрацыйнага бюро своечасова сыгналізуе старшыню каапбюро і праўленьне каапэратыву, для прыняцьця адпаведных мер па зьнішчэньні недахопаў у рабоце і мабілізацыі пайшчыкаў на выкачаньне стаячых перад каапбюро задач.

#### IV. Справаздачнасьць і сувязь з мясцовымі арганізацыямі.

1. Каапбюро робіць справаздачы аб сваёй рабоце на пасе джаньні праўленьня каапэратыву і на агульных сходах пайшчыкаў ня менш аднаго разу ў квартал; перад мясцовым партыйнымі, савецкімі і прафэсыянальнымі арганізацыямі па меры патрэбнасьці.

2. Сувязь з партыйнымі, савецкімі, прафэсыянальнымі і іншымі грамадзкімі арганізацыямі, а таксама з рэвізыйнай камісіяй каапэратыву, калгасна-батрацка-бядняцкай групай,—каапбюро ажыцьцяўляе шляхам узгадненьня пляну сваёй работы і пастаноўкі сваіх справаздач на сходах і паседжаньнях гэтых арганізацый.

Выдавец БелТА. Рэдактар З. Гінзбург.

Друкарня Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭКАСА БССР. Упаўнаважаны Галоўлітбела Б № 312. Заказ—266. Тыраж 2000.